Сергей Дубавец

# Строй, в котором мы живем

Наши люди имеют весьма слабое представление о том, что же в конце концов должно произойти с их страной, с жизненным устройством, с ними самими, — в результате "всех этих перемен". Переходный период слишком затянулся и уже достаточно опостылел. Так и не ясно, куда он приведет. Карикатура на реформы напрочь отбила желание любых перемен. Слова "демократия", "свобода", "права человека" превратились в пустой звук, так и не проникнув в сознание человека. Представления о том, что перемены произойдут экстенсивно — достаточно ослабить контроль ЦК, рассказать правду об истории, ввести независимость, и народ возродится к труду и новой самостоятельной свободной жизни, — потерпели полное фиаско. Никаких изменений в человеке не произошло. Он тот же советский, хоть и освобожденный внешне, но тем более зажатый и обозленный внутри. Он просто не знает, как можно жить иначе.




CIM

## Не унижать!

Что наиболее отличает наших людей от населения бывших соцстран и тех бывших союзных республик, где перемены действительно произошли, где вся жизнь перестроилась на новые рельсы и уже ощущаются позитивные результаты реформ, — это сами люди. Они не такие. Не так, как наши, рассуждают, не так ведут себя, даже одеваются не так. Они уже не обозлены, не грызутся между собой, нормальные — это они сами нормализуют свою жизнь. На вас никогда не накричат в госучреждении, вам улыбнутся в магазине и постараются угодить в фирме. Вы ощутите некоторую свою человеческую значимость, а значит, вновь поверите в свои возможности и в собственное великодушие. Человек не должен унижать другого человека. Пустые слова? Действительно, нашему человеку, постоянно унижаемому и унижающему, этот смысл не просто объяснить словами. Самый верный способ — показать, как это бывает в жизни, дать возможность попробовать, поверить и захотеть самому.

Прагматик заметит, что надо сперва изменить экономические и социальные отношения. Нужны реформы. А помоему, сперва нужно этих реформ захотеть, причем зная, чего именно ты хочешь. Может быть, потому и не идут у нас никакие реформы, что люди не хотят, а не хотят, потому что не знают, что это такое — частная собственность, правовые отношения, гражданское сообщество. Обо всем этом наши люди имеют извращенное и потому предвзятое представление.

## Информационная блокада

Средств массовой информации о мире в Беларуси нет. Белорусы пользуются только российской информацией — и о соседних странах Балтии, Украине, Польше и самой России, и о Чечне, и о Югославии... Российские же СМИ дают лишь идеологизированную информацию — с точки зрения огромной и могущественной державы. Кроме того — это всегда пристрастная информация "одной из воюющих сторон". Лейтмотивом российских новостей всегда проходит отношение правящей российской элиты к тем или иным событиям и деятелям, а также традиционная российская неприязнь к "западничеству" — ко всему доброму и плохому, что придумано, найдено, вымучено там. Российские журналисты рассуждают об особенном историческом пути своей страны, состоящей из европейской и азиатской частей, о пути, вымощенном вперемешку христианскими и мусульманскими ценностями, о синтезе разных рас, менталитетов, предопределений. Именно в такой мировоззренческой упаковке получают белорусы информацию о мире. Она не соответствует ни истории, ни географии, ни ментальности нашим собственным, нашей страны — небольшого государства в центре Европы. Тем не менее, пять российских телеканалов и целиком ориентированный на них один белорусский, провинциально-российская по существу пресса и белорусское радио, где информация скорее случайна, — вот и все источники знания нашего человека о том, что происходит вокруг.

Что наш человек знает о войне в Чечне? С первого дня этой войны и по сегодняшний день все телекомпании мира ежедневно включают информацию о последних чеченских событиях в свои информационные выпуски — в Америке, Франции, Германии, Испании, Польше, Литве (где, для сравнения, 6 только литовских телеканалов) люди "в курсе". Причем беспристрастно, так как это не участвующие страны, что, впрочем, не исключает разницы во мнениях комментаторов. Конечно, там все только и делают, что жутко ненавидят Россию, однако прежде всего речь идет о наиболее полной "голой" информации, без комментариев. Во всех этих странах и в странах СНГ (кроме России и Беларуси) телевидение показало мастерски сделанный эстонскими кинодокументалистами из материалов их украинских коллег фильм о Чечне и о всей нашей постсоветской жизни. Каждый вправе делать свои выводы, но каждый должен иметь право на полную информацию, как и на хорошие фильмы тоже.

Для Беларуси чеченская тема особенно важна. Ведь страна, которая планирует войти в состав Российской Федерации, должна отчетливо представлять себе, какой ценой можно оттуда выйти. Еще через десять или двадцать лет мир изменится вокруг нас, и стоит ли нам принимать необратимые решения, которые лягут на плечи наших детей и внуков. Ведь одним только вхождением в Россию мы не гарантируем для них лучшего будущего. Даже если нам так кажется. Поэтому, думаю, что именно Беларусь должна сегодня во все глаза следить за чеченскими событиями, с рассказа о которых ежечасно вот уже полгода начинает свои выпуски русская служба радио "Свобода" — наиболее доступный у нас из числа полных и профессиональных независимых информационных источников.

Но Беларусь об этом не знает. Более того, это как бы неинтересно. Это как бы не о нас. Похожая ситуация — с Югославией. Российские СМИ традиционно поддерживают сторону агрессора — сербы и православные, и пишут кириллицей, и в маленькой Югославии ощущают себя также, как русские в СССР — старшим обиженным братом. Весь европейский, по крайней мере, мир уже несколько лет с головой "окунут" в югославские события. Для нас это — тоже не слишком интересно. Потому что — не своей подсознательно интерпретации. Между тем, тамошний конфликт возник на весьма похожей на нашу почве. Люди одного этноса, с одним языком, разделились по религиозному принципу на разные нации — православных сербов, католиков хорватов и мусульман босняков. Для белорусского народа, извечно разделенного на несколько религий — православных, католиков и протестантов — это серьезный опыт того, как возникают конфликты, а тем более войны. Возможно, пока нас спасает только то, что мы ЕЩЕ недостаточно религиозны. А что будет завтра?..

Приведенные два примера можно дополнить всеми остальными примерами мира. Мир нам неинтересен. Мы получаем его не в своей упаковке. Я имею ввиду не столько язык, сколько подачу и интерпретацию новостей и событий. Наши журналисты, как правило, творчески аморфны, неподвижны и лишены профессионального достоинства. А наше государство еще не определилось со своими интересами, не выработало свою идеологию, чтобы давать новостям адекватную интерпретацию.

Причем наше государство к этому и не стремится. Оно не знает, какое будущее оно строит и вообще к подобным планам относится скептически. Точно так же, как его руководитель, который считает, что программа президента должна быть "на одной странице", а всю остальную работу он не без иронии отдает в распоряжение абитуриентов на вступительных экзаменах. Мол, им жить, вот пусть они и придумывают себе какое-нибудь там государство...

Если бы можно было, я переселил бы весь наш народ вместе с его президентом куда-нибудь в Польшу или в Литву. На годик, не больше. Ведь лучше один раз увидеть. Обжиться в условиях более нормальной страны, близкой нам по опыту, духу, прошлому. Среди стран и народов нашего типа преуспел тот, кто перестал заниматься маниловщиной, придумыванием оригинального исторического пути, ничего при этом не делая. Преуспел тот, кто начал работать по образцам. Ведь в нашей ситуации, в ситуации небольшой страны в центре Европы, все давно изобретено и придумано. Остается только понять самих себя, понять других и сделать свое чудо — экономическое, политическое, культурное.

## Где теперь Берлинская стена?

В этом смысле наиболее полезными были бы поездки нашего человека в Вильню (Вильнюс) — давнюю белорусскую столицу, а сейчас столицу республики, которая первой в Советском Союзе начала реформы и первой вышла из состава СССР. Здесь одновременно есть две полезности — посмотреть, что же из этих реформ получается в реальности и ощутить вечность собственного народа, его культуры и государственности. Но, увы, как раз сюда путь заказан.

Кто-то из белорусских руководителей недавно сказал, что наши отношения с Литвой могут быть эталоном для других европейских стран. Каково представление об эталоне! За последние пять лет в отношениях с Литвой действительно проделано все то, что делалось в это время в отношениях между другими странами Европы, только наоборот. По сути здесь, где кончается Раковское шоссе, и еще на протяжении 700-километровой границы была возведена новая Берлинская стена. Не иначе, из камней той, которую разрушили в Германии. Съездить из Менска в Вильню сегодня не то, что дорого или далеко (180 км), а попросту невозможно. И не то что простому туристу, но и историку, желающему поработать в виленских архивах, и литератору, ищущему контактов с литовскими коллегами, группе школьников, стремящихся увидеть дом, в котором печатал свои книги Скарына, площадь, на которой был повешен Калиновский, адреса первых белорусских газеты, школы, театра... Невозможно. Не пустят. Таков "эталон".

Более того, даже позвонить из Менска в Вильню может только богатый. Минута — доллар. Кстати, из Вильни в Менск — вдвое дешевле. Словом, глухая стена, которая чем дальше, тем становится глуше. Как в материальном мире, так и в духовном. 500 лет мы с литовцами жили в одном интернациональном государстве под единым древним государственным символом. "А зачем нам с литовцами один герб?" — эти слова А.Лукашенки — не что иное, как выверт какого-то пещерного национализма. А скорее — просто незнание истории, нелюбовь к собственным предкам и их реликвиям. Но сейчас и в этом смысле мы с литовцами разделены Берлинской стеной. Возможно, это — стена нового разделения Европы или даже мира — на "наших" и "чужих".

* * *

А теперь давайте подведем черту. Что мы имеем сегодня в сравнении с нашим советским прошлым и с предполагаемым "цивилизованным будущим"?

Наш человек не имеет никакого доступа к информации, в сравнении с какимнибудь обычным поляком или немцем, и имеет вдвое меньше информации, чем в советские времена. Вы уже не выпишете, как раньше, эстонскую или украинскую газету, не купите французский журнал. Да и на российскую прессу нужно слишком много денег.

Наш человек не стал законным собственником (а это первая буква в любом разговоре о реформах), то есть не изменил свой статус рабской зависимости от государства — в отличие от человека с запада, но лишился многих социальных гарантий — в сравнении с гомо советикусом.

Этих двух пунктов достаточно, чтобы за А.Лукашенко ответить на вопрос, на который он еще ни разу не смог ответить — какой же строй мы создаем в Беларуси? Мы урезаем и извращаем советский строй. Ничего существенно нового или иного у нас не произошло. Мы живем в укороченном и покалеченном "социализме". Отсюда вполне понятное желание людей вернуться назад. Тем более, что прошлые "зажимы" основательно забылись за эти пять лет.

Правда, при этом ничем не оправдано нежелание реформ, отвращение к переменам, запугивание неизвестным будущим, ставшее сегодня едва ли не единственной идеологией наших правителей. В Беларуси никаких реформ не только не было и нет, но никто даже не знает, что это такое. Напуганных какими-то эм-эммами, обставленных стенами и лишенных опеки государства людей посещают все более деструктивные мысли и желания. Но правители могут сидеть спокойно. У наших людей для бунта нет воли. Наши люди будут медленно мученически угасать в созданных им условиях вчерашнего полустроя. Наши люди слишком зависимы от властей, достигших своего человеческого потолка и уже не способных изменяться, развиваться, расти.

Поэтому когда-нибудь какие-то позитивные изменения начнутся у нас не с властей, а с обычного человека, с его открытия. Вдруг эта коварная цэрэушная пропаганда все-таки проникнет через наши мощные стены, в наши средства массовой деградации, в наши умы, и мы увидим, что жить можно не так, как живем мы, в постоянном бесплодном напряжении, но и иначе, лучше, нормальнее. Когда-нибудь все начнется с открытия...

